*Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!*




# НІЗАВЫ ПАРТРАБОТНІК

**ВЫПУСК АРГАДДЗЕЛА ГОМЕЛЬСКАГА ГК КП(б)Б**

№ 2 5 лістапада 1933 № 2

# НІЗАВЫ ПАРТРАБОТНІК

ВЫПУСК АРГАДДЗЕЛУ ГОМ. ГК КП(б)Б

№ 2 | 5 лістапада 1933 г. | № 2

Няхай жыве 16 гадавіна Кастрычніка!
Няхай жыве пролетарская рэволюцыя ва ўсім свеце!

## 16 ГОД ПЕРАМОЖНАЙ ПРАЦЫ

К XVI гадавіне Кастрычніка Гомельская партыйная арганізацыя, праверыўшы свае партыйныя рады і ачысціўшыся ад апартуністычна-разлажыўшыхся элементаў, прыходзіць як ніколі згуртаваная, гатовая на далейшую барацьбу і перамогі ў галіне прамысловасці, сельскай гаспадаркі і культурна-бытавога будаўніцтва. Год, аддзяляючы нас ад XV гадавіны, з'яўляецца для ўсёй краіны Советаў, у тым ліку і Гомеля, годам велізарнейшых перамог.

Па ўсёй краіне ўводзяцца ў строй новыя заводы, цэхі, запальваюцца новыя домны, пракладваюцца новыя тысячы кілометраў чыгункі, няўклонна павялічваецца здабыча вугля, метала; стаў на цвёрды шлях бесперапыннай работы наш чыгуначны транспарт.

Гэты год з'явіўся годам велізарнейшых перамог у галіне авалодання тэхнікай, асваення новых прадпрыемстваў. Асабліва велізарны нашы поспехі ў галіне сельскай гаспадаркі; замацаваны калгасны строй, што сведчыць на справе аб перамогах лініі партыі, накіраванай (лініі) на калектывізацыю сельскай гаспадаркі.

Сумесна з усім Совецкім саюзам і наш пролетарскі Гомель азнамяноўвае XVI гадавіну новымі перамогамі. Уводзіцца ў строй буйнейшае і маючае ўсесаюзнае значэнне прадпрыемства Беларусі—шклобуд, першая прадукцыя якога будзе дана ў Кастрычніцкія дні. Пераклікаюцца паміж сабою прадпрыемствы Гомеля—„Пролетарый“, завод імя Ланцуцкага, „Рух. рэволюцыі“, „Палесдрук“ і інш. аб сваіх дасягненнях па вытворчых паказчыках. Асабліва кашто́ўна адзначыць зав. „Чырвоны хэмік“, раней не вылязаўшы з прарыва на працягу многіх гадоў, і даўшы ў кастрычніку мес. 101 проц. выканання прамфінплана. Сваё пролетарскае свята большасць прадпрыемстваў горада сустракаюць вытворчымі падарункамі (Сельмаш, чыгуначны транспарт, зав. імя Ланцуцкага і шмат інш.).

Праверка соцыялістычных дагавароў, унутрызаводскія і агульна-гарадскія злёты ўдарнікаў па якасці, сталінскі паход на арганізаваную сустрэчу зімы выклікалі новую шырокую хвалю творчай актыўнасці пролетарскіх мас. Рабочыя і ІТР калектывы раду прадпрыемстваў Гомельшчыны па-баявому змагаюцца за якасць прадукцыі, за ўшчыльненне рабочага дня, за лепшае матар'яльна-бытавое і культурнае абслугоўванне рабочых.

Але сёння, у XVI гадавіну, мы адзначаем не толькі нашы перамогі, але і нашы хворыя месцы: **Гомельшчына ў цэлым з прарыва выканання прамфінплана да гэтага часу не выйшла.** Такія прадпрыемствы, як Добрушская папяровая ф-ка, камбінат ім. Гікало, камбінат „Спартак“ і інш. яшчэ значна адстаюць і XVI гадавіну Кастрычніка сустракаюць глыбокім прарывам. Гэта мы павінны ўлічыць і атрымаць большэвіцкія ўрокі. Прарыў павінен быць ліквідаван.

Цэлага раду дасягненняў дабілася наша арганізацыя і ў галіне сельскай гаспадаркі (сваячасова ўбран ураджай, закончана хлеба-здача, завяршон асенні сеў, выканан план адгрузкі бульбы Ленінграду; набліжаюцца да канца бульбапастаўка і ўзмёг зябі—аснова ураджая будучага года).

Яшчэ шмат работы ўперадзе—па арганізацыйна-гаспадарчаму ўмацаванню калгасаў, асабліва ў справе далейшага развіцця калектывізацыі.

Перамогі нашай парт. арганізацыі на вёсцы велізарныя. Іх трэба замацаваць і рухацца ўперад.

Гэтыя поспехі, якія мае Гомельская арганізацыя к XVI гадавіне Кастрычніка, ёсць рэзультат большэвіцкага апэрацыйнага кіраўніцтва з боку ЦК нашай партыі, на чале з т. Гікало, рэзультат канкрэтнага кіраўніцтва і практычнай дапамогі Гарадскога партыйнага камітэта.

Гэтых поспехаў Гомельская партыйная арганізацыя дабілася ў рэзультаце рашучага зруху ў галіне пастаноўкі партыйна-масавай работы на прадпрыемствах, у цэху, брыгадзе.

На парозе XVI гадавіны Кастрычніка Гомельская партыйная арганізацыя, даючы сакрушальны адпор правым і „левым“ апартуністам, поўна рашучасці і надалей змагацца за ажыццяўленне генеральнай лініі партыі і ўказанняў правадыра нашай партыі і сусветнага пролетарыята тав. Сталіна.

**Пуск шклозавода—свята социялістычнае працы, ператвараючае ў гарніле соцыялістычнае будоўлі з людской сыравіны будаўнікоў новага жыцця — ўдарнікаў— лепшых людзей нашай эпохі.**

# Былы шклобуд— ад гэтага часу шклозавод

XVI гадавінуКа стрычніцкай рэволюцыі мы сустракаем яшчэ адной вялікай перамогай—пускам гіганта Касцюковіцкага шклозавода. Такая перамога—вынік няўхільнага правядзення нашай партыяй ленінскай нацыянальнай палітыкі. Пуск шклозавода—гэта свята не толькі працоўных г. Гомеля, але працоўных усёй краіны.

Шклозавод, механізаваны па апошняму слову тэхнікі, пабудаван выключна сіламі совецкіх тэхнічных работнікаў; абсталяванне яго зроблена выключна на нашых заводах, а часткова і на Гомельскіх заводах, якія паказалі прыклад большэвіцкай арганізаванасці ў галіне дапамогі шклобуду ў яго своечасовым пуску. Святкуючы гэтую перамогу, нельга не адзначыць лепшых ударнікаў будоўлі, вось яны: Вінаградаў, Маскоўка, Клімаў, Разумееў, Мішчанка, Самойлаў і інш. Іх прыклад, шырока разгорнутае соцспаборніцтва і ўдарніцтва, аперацыйнае кіраўніцтва Гаркома партыі, непасрэднае кіраўніцтва парткалектыва вырашылі поспех пуска гіганта.

Шклобуд, ад гэтага часу шклозавод, абарудаван выключна арматурай совецкіх заводаў. Праектыроўка вытваралася выключна совецкімі спецыялістамі. Кіраўнікамі будоўлі, людзмі, якія забясьпечвалі перамогу на розных яе участках, з'яўляліся комуністы. Галоўны нерв завода—газагенератарная станцыя—будавалася і пабудавана пад кіраўніцтвам рабочага комуніста тав. Чаканава. Якасць мантажа добрая. Ванная печ, мантаж якой з'яўляецца адным з адказнейшых участкаў завода, была змантажавана пад кіраўніцтвам рабочага комуніста т. Шуміліна.

Новы склад бюро і ўвесь парткалектыў у сваёй штодзённай рабоце вялі рашучую барацьбу за ліквідацыю непаладак, якія мелі месца на пабудове, рашуча выступалі супроць малавераў, не верыўшых у магчымасць пуска завода да XVI гадавіны Кастрычніка, шырока разгарнулі масавую работу, арганізавалі соцспаборніцтва паміж цэхамі, брыгадамі і асобнымі рабочымі.

Асаблівую ролю ў сканчэнні будоўлі адыгралі спецыялісты-комуністы т. т. Добравольскі і Трусаў, якія сапраўды пабольшэвіцку змагаліся за пуск завода.

Асабліва трэба адзначыць аперацыйнае і канкрэтнае кіраўніцтва будаўніцтвам завода ЦК КП(б)Б, і ў прыватнасці т. Гікало, Гаркома КП(б)Б, у прыватнасці т. Шафарэнка.

Завод пушчан. Але-ж на гэтым застанавіцца нельга: перад парткалектывам і перад усім рабоч. калектывам стаіць вялікая задача — поўнасцю асвоіць магутнасць завода, наладзіць выкананне прамфінплана і ўсіх якасных паказальнікаў; яшчэ з большай энергіяй і адданасцю змагацца за правядзенне ў жыццё 6 гістарычных умоў т. Сталіна. Выкананне гэтай задачы павінна стаць справай гонару, славы і доблесці для кожнага комуніста, для кожнага рабочага і ІТР шклозавода.

Сакратар парткалектыва шклозавода Шаліхін.



# ПРАДКАСТРЫЧНІКАВАЯ ПЕРАКЛІЧКА ЦЭХОЎ, БРЫГАД І ЗВЕННЯЎ ПАРТАРГАНІЗАЦЫІ

## З адстаючага—цэх стаў ударным

Тэрмацэх зав. „Чырвоны хімік" на працягу некалькіх год выконваў свой прамфінплан не вышэй, чым на 50 проц., што цяжка адбівалася на заработку рабочых, і таму рабочыя ісці ў гэты цэх працаваць не хацелі.

Па пастанове Гаркома частка комсамольцаў, у тым ліку і мы, былі мабілізаваны на работу ў „Чырвоны хімік". Нас паставілі там на работу ў самы брудны і адстаючы тэрма-цэх. Працаваць спачатку было вельмі цяжка, з прычыны таго, што мы былі незнаёмы з хімічнай вытворчасцю. На заводзе панавала поўная безгаспадарчасць; абсталяванне пабітае, соцспаборніцтва і ўдарніцтва не былі разгорнуты, нават рабочыя не разумелі, зачым яно патрэбна, бо сярод рабочай масы не праводзілася ніякай культпрацы; 6 умоў т. СТАЛІНА не ажыццяўляліся; прагулы і спазненні былі звычайным з'явішчам на заводзе. Прыказка „абы дзень да вечара" панавала ва-ўсю. Вучота работы амаль што зусім не вялі; у паасобных рабочых з'явіліся шкодныя настроі; некаторыя крычалі, што план нерэальны. Гэта грала на руку рвачоў, асабліва „спецаў" па хімічнай вытворчасці, якія не задоўга перад тым прышлі з вёскі. Карыстаючыся наліччам недахопа рабочай сілы, яны заяўлялі: „калі не дасце таго, чаго мы хочам, дык кінем працу і пойдзем дадома".

Вось у якой атмасферы нам, прысланым на завод комсамольцам, прышлося спачатку працаваць. І не дзіва, што і сярод нас узнікалі думкі аб тым, каб кінуць працу, але комсамольская дысцыпліна не дазволіла нам зрабіць гэта, і мы ўзяліся за разгортванне работы. Пачалі працаваць па 2-3 змены падрад, але і гэта не дапамагала, бо цякучасць рабочай сілы была вельмі вялікая, і цэх зноў спыніў сваю работу.

Прамысловасць краіны патрабавала нашай прадукцыі. Парткалектыў завода абвясціў унутрызаводскі конкурс на лепшы цэх, брыгаду, і перакінуў рабочых і інж.-тэхн. персанал у тэрмацэх, арганізаваў круглясутачнае дзяжурства, пераглядзеў нормы, набраў рабочую сілу з калгасаў па дагаворах, прымацаваў пэўныя брыгады к майстрам. А мы, комсамольцы, заключылі соцумову, выклікалі інш. таварышоў, павялі шырокую растлумачальную работу сярод рабочых аб значэнні соцспаборніцтва і ўдарніцтва, узяліся за вывучэнне тэхнікі, пачалі выпускаць насценгазету, у якой бязлітасна бічавалі лодыраў, паказвалі лепшых ударнікаў. І вось 21 жніўня цэх распачаў работу. Выкананне прамфінплана мы паступова падвышалі: у першы дзень далі 2 батарэі, праз некалькі дзён—7, потым 11 бат. Гэта была вялікая перамога ў рабоце цэха. Але справа ішла так недоўга. Уноў паступіўшыя рабочыя, не знаёмыя з нашай вытворчасцю, часта псавалі абсталяванне, вылівалі ў каналізацыю масу, бруд раз'ядаў скуру, і работу цэха зноў на час прышлося прыпыніць, пакуль справілі гэтыя недахопы. З 1 верасня цэх стаў працаваць бесперапынна. 8 батарэй стала максімальнай лічбай прамфінплана ў суткі. Па нашай ініцыятыве быў уведзены канвеер у рабоце брыгады. Гэта дала нам магчымасць завесці ўлік работы і скарыстаць кожную адзінку ў брыгадзе. Усе пачалі добра адносіцца да абсталявання, сачыць за яго чыстатой.

Мы пачалі практыкаваць пасля працы кароткія нарады майстроў, інжынераў. Наш прыклад паступова пачалі пераймаць і інш. брыгады цэха, і зараз замест адной ударнай брыгады мы маем ужо дзве брыгады. У верасні мы дасягнулі 80 - процантнага выканання плана. Ужо к першаму злёту ўдарнікаў мы прадставілі 20 лепшых ударнікаў. Набліжэнне XVI гадавіны Кастрычніка і разгорнутае соцспаборніцтва яшчэ больш узнялі энергію рабочых, і план за кастрычнік м-ц датэрмінова выканан на 103,2%.

Цяпер наш цэх цалкам стаў ударным. Мы трымаем чырвоны пераходны сцяг і замест 4-х батарэй 17 град. даём 7 батарэй 22 град., а ў далейшым спадзяемся яшчэ больш падвысіць гэтыя нормы.

Комсамолка Подзе.

---

„Трэба, стала быць, арганізаваць працу на прадпрыемствах такім чынам, каб вытворчасць падымалася з месяца ў месяц, з квартала ў квартал".

(СТАЛІН).

У нас гіганцкі вырасла патрабаванне ў электраэнергіі. Асвоіць электрастанцыі—значыць не толькі дасягнуць на ёй прадзельнай магутнасці, але работаць без перарываў, без астановак, без аварый, а гэта дасягаецца не рэзалюцыямі, не прыгожымі словамі, якіх работнікі электрагаспадаркі гавораць не мала, але знаннем справы, глыбокім знаннем усіх тонкасцяй, усіх дэталяй. Гэта датычыцца і да рабочых, і да ІТР і гаспадарнікаў, і да партыйных, комсамольскіх, прафсаюзных работнікаў.

# Прымусіць „сэрца“ працаваць бесперапынна

Прынята казаць, што электрастанцыя—гэта сэрца вытворчасці, і асабліва часта казалі гэта тады, калі гэтае „сэрца“ працавала з рук вон дрэнна і калі па яго віне за 1932 год Гомельская прамысловасць не дадала дзяржаве на 2 мільёны руб. валавой прадукцыі.

У нас на электрастанцыі „сэрцам“ з'яўляецца наша брыгада качагараў. Мы, добра ведаючы аб гэтым, да апошняга часу ўсё-ж такі працавалі вельмі дрэнна. На працягу ўсяго мінулага году і да ліпеня б. г., замест эканоміі, мы мелі сістэматычны пералсог вуглю; існавала абязлічка, адсутнічала прыёмка ў зменах, топкі не чысціліся, і, як вынік, дрэнны параз'ём і вельмі частыя аварыі. Працоўная дысцыпліна ў нас была не ў „пашане“, нярэдкі былі выпадкі прагулаў, з'яўлення на работу ў не зусім трэзвым відзе.

Пасля чысткі, якая ўскрыла ўсе нашыя недахопы, пасля мерапрыемстваў, прынятых з боку гарадскіх арганізацый і нашага парткалектыва, абвешчання конкурса на лепшае прадпрыемства, разгортвання перадкастрычніцкага соцспаборніцтва—мы разам з усёй брыгадай рашылі, што так далей працаваць нельга, што нам, вядучай групе ў сябе на прадпрыемстве, трэба выйсці на перадавыя пазіцыі, трэба змагацца за першынство ў спаборніцтве. Мы ўзялі на сябе рад абавязкаў і выклікалі на соцспаборніцтва брыгаду машыннага зала. Уся брыгада ў колькасці 60 асоб (з іх 4 комуністы і адзін комсамолец) абвясцілі сябе ўдарнікамі; кожны рабочы ўзяў на сябе пэўныя абавязкі і выклікаў на соцспаборніцтва поплеч стаячага таварыша, і, як вынік, больш 50%—35 чал.—нашай брыгады з'яўляюцца зараз лепшымі ўдарнікамі, у тым ліку ўсе комуністы.

Над кожным катлом у сябе ў качагарцы мы ўстанавілі шэфства; шэфы адказваюць за работу і становішча катла не толькі ў час сваёй працы, але і пры перадачы змены. Гэтым мы дабіліся штодзённага кантроля над доглядам за катлом.

Быў выпадак, калі змена Двоскіна, здаючы кацёл, дрэнна прадула яго. Гэта выявіла наступная змена, якая павінна была прыступіць да работы. Безадкладна была склікана 5-хвілінная нарада, і змена Двоскіна была прымушана яшчэ раз прадуць кацёл. Гэта паслужыла вурокам для іншых.

У выніку такой работы мы за апошні час дабіліся значнай эканоміі вугля: за жнівень гэта эканомія выразілася ў 117,6 тон, за верасень—159,3 тон вугля.

Акрамя гэтага, за апошні час мы значна павялічылі параз'ём: калі раней кацёл даваў 3 кв. кубаметры 18 квт пару ў гадзіну, дык зараз дае 28 клв, або на 55,5 проц. вышэй ранейшага.

Для ўзняцця свайго тэхнічнага ўзроўня мы арганізавалі гурток качагараў, які працуе ўжо 2 месяцы.

Не адстаем мы і ў правядзенні партмасавай і грамадскай работы. За апошні час для ўзняцця свайго палітычнага ўзроўня, пасля працы і ў час абедзеных перапынкаў мы сістэматычна праводзім гутаркі; апошнімі з іх былі наступныя: „Аб узаемаадносінах СССР з Амерыкай“, „Нашыя дасягненні ў справе засваення тэхнікі“, „Значэнне Лейпцыгскага працэса“ і інш.

Ва ўсёй нашай брыгадзе няма ніводнага рабочага, не падпісаўшагася на пазыку першага года другой пяцігодкі.

Мы рэгулярна выпускаем газету, у якой асвятляем ход нашай работы. Так, разгортваючы спаборніцтва, мы цвёрдымі крокамі выходзім у лік перадавых.

Адзін асноўны недахоп у нашай рабоце,—гэта тое, што мы, спаборнічаючы з заводам „Чырвоны хэмік“, не разгарнулі брыгаднага спаборніцтва.

**Парторг т. Радзевіч.**

Трэба асноўныя сілы парт'ячэйкі і парткома згрупаваць у цэхах і партгрупах.

КАГАНОВІЧ

Нач. ліц. цэха зав. Гомсельмаш т. Агранат

# З гонарам выканаем ўзятыя на сябе абавязацельствы

На гарадской канферэнцыі майстраў я прыняў выклік начальніка ліцейнага цэха т. Лапіцкага на лепшае выкарыстоўванне абсталявання, лепшае выкарыстоўванне плошчы, давядзенне брака ліцця да 3 проц. і выкананне плана са дня на дзень.

Для мяне было ясна, што трэба, каб у гэтым дагаворы ўдзельнічалі ўсе рабочыя цэха, бо без іх удзела я не змагу выканаць прынятыя на сябе абавязкі. Гэтыя абавязкі я абгаварыў на пасяджэньні трохкутніка цэха, у брыгадах, на агульных сходах, і мой соцдагавор з Лапіцкім цэхам быў прынят. Гэта значыць, што кожны ўдарнік і рабочы нашага цеха зразумелі вялікую палітычную важнасць гэтага соцдагавора, узяліся па-большэвіцку яго выконваць.

Наш ліцейны цэх з'яўляецца вядучым на заводзе. Чоткасць работы і якасць выпускаемай прадукцыі вырашаюць поспехі работы ўсяго завода. Адсюль зразумела, што ў нашай рабоце павінна адыграць вялікую ролю адзінаначалле. Я, як начальнік цэху, размеркаваўшы функцыі майстраў і брыгадзіраў, не дапускаю, каб якія-бы та ні было загады рабочым ішлі праз галаву брыгадзіра; сачу, каб кожны загад у абавязковым парадку праводзіўся толькі праз брыгадзіра.

У сваёй штодзённай рабоце я практыкую рапарты ад майстроў і ад брыгадзіраў аб ходзе выкананьня прамфінплана і становішчы цэха, і калі знаходжу якія-небудзь недахопы, дык зараз-жа прымаю ўсе захады да іх знішчэння.

Большасць брыгадзіраў у цэху працуюць непасрэдна каля апокі, фармоўкі, абрубкі і інш., яны нясуць поўную адказнасць за колькасныя і якасныя паказальнікі работы іхніх брыгад.

Чоткасць работы, адзінаначалле, памножаная на соцспаборніцтва паміж брыгадамі і паасобнымі рабочымі, дала магчымасць з месяца ў месяц палепшаць нашу работу: калі мы за першае паўгоддзе гэтага году выканалі план на 85 проц., а ў ліпені месяцы на 74 проц. і ў жаўні на 50,8 проц., дык за верасень мы ўжо выканалі яго на 100 проц. камплектнасці.

Жорсткай барацьбой супроць брака мы дабіліся значнага зніжэння яго; за ліпень мес. брак складаў 20 проц., за верасень—5,1 проц. Праўда, у нас яшчэ маецца скачкаватасць у рабоце: у паасобныя дні брак даходзіць да 2 проц., а потым зноў падымаецца да 8 проц. Супроць гэтай няроўнамернасці работы мы вядзем рашучую барацьбу,

Значна палепшыўся і падлік у цэху. Штодзённа вывешваюцца процантныя паказальнікі прадукцыйнасці працы, брака, заработка рабочага і г. д. Гэта дае магчымасць кожнаму рабочаму сваячасова кантраляваць і падлічваць ягоную работу, а кожнай брыгадзе сваячасова дапамагае бачыць свой прарыў і прымушае яе паклапаціцца аб тым, каб яго знішчыць.

У мяне ў цэху маецца 9 гасп.-разліковых брыгад, налічваючых 121 чал. Яны штодзённа змагаюцца за выкананне прамфінплана, за зніжэнне процанта брака да мінімума і за ўшчыльненне рабочага дня. За верасень месяц мы маем эканомію ў 572 руб., з якіх на прэм'яванне брыгад адпушчаны 311 руб., як-та: брыгада Драздова мела эканомію на 182 руб. і была прэміравана на 102 руб., брыгада Зайцава мела эканомію ў 151 руб.—прэміравана на 94 руб; брыгада Рабінькага мела эканомію на 65 руб.—прэміравана на 33 р. і г. д.

Усяго гэтага мы дабіліся, дзякуючы таму, што ў аснову сваёй работы паклалі рашэнне ліпеньскага пленума Гаркома і ГарКК КП(б)Б аб рабоце нашага завода, перабудоўваючы ўсю работу з тым, каб кожны адказваў за даручаны яму участак. І дружнай сумеснай работай, разам з усёй партарганізацыяй цэха і асабліва з сакратаром п-яч. т. Берковічам, які ў штодзённай сваёй рабоце змагаецца за авангарднасць комуністаў на іхных участках работы, мы спадзяемся дасягнуць яшчэ лепшых вынікаў.

Але побач з поспехамі цэх мае яшчэ і цэлы шэраг недахопаў: яшчэ вялікі у нас процант браку, недастаткова скарыстоўваецца рабочы дзень. Наша задача, замацаваўшы дасягнутае, разгарнуць соцыялістычныя метады працы паміж цэхамі, паасобнымі рабочымі з тым, каб вывесці ўвесь завод з прарыва.

Так я выканаў свае абавязкі, узятыя на канферэнцыі майстроў і брыгадзіраў.

Агранат

---

Самае істотнае ў спаборніцтве састаіць у тым, што яно робіць карэнны пераварот ва узглядзе людзей на працу, бо яно ператварае працу з зазорнага цяжкага часу, якім яна лічылася раней, у справу чэсці, у справу славы, у справу доблесці і геройства

СТАЛІН

# САЗНАЦЕЛЬНАЯ ЖАЛЕЗНАЯ ДЫСЦЫПЛІНА-- : : аснова чоткай работы чыгуначнага транспарта : -

## Апраўдаем званне лепшага ліцейнага цэха Гомеля

У спаборніцтве ліцейных цэхаў металаапрацоўчых заводаў Гомеля наш ліцейны цэх завода імя Ланцуцкага ідзе ўперадзе. Сваё перадавое месца цэх заваяваў не адразу, а напружанай работай, пад умелым кіраўніцтвам начальніка цэха Лапіцкага.

Яшчэ ў першым паўгоддзі ў цэху дрэнна абстаялі справы У першым паўгоддзі план па ліццю быў выкананы на 73 проц., пры чым брак дасягаў 5,44 проц У ліпені план быў выкананы на 86,05 проц.. а брак пачаў спадаць да 3,2 проц. Рашаючага пералома цэх дабіўся ў верасні, калі план па ліццю быў выкананы на 108 проц., а брак быў адразу зніжан да 2,81 проц. Калі каштоўнасць тоны ліцця за першае паўгоддзе складала 218 р. 28 кап., дык у ліпені сабекошт знізіўся да 196 р 93 к.

Рашаючую перамогу цэх атрымаў у кастрычніку. За першую палову кастрычніка план па чыгунным ліццю выкананы на 112 проц., а брак зніжаны зусім да 0,5 проц. Па бронзе план выкананы на 100 проц., брак зніжаны да 2,1 проц.

Якімі метадамі ліцейны цэх дамагаўся гэтых поспехаў? Тут формы і метады работы былі розныя. Па-першае, вакол знішчэння брака мабілізаваўся ўвесь калектыў. Кожны дзень абгаварваліся прычыны брака, абгаварваліся канкрэтныя бракаробы на групавых сходах; аб гэтым трубілі штодзёнкі, аб гэтым крычаў кожны куток цэха. Дзейсным сродкам з'явіўся гаспразрахунак. Трэба сказаць, што ў нас, у цэху, брыгады працуюць на гаспразрахунку. Над бракаробамі вельмі часта наладжваюцца вытворчыя суды, яны заўсёды практыкуюцца ў часе перапынку на снеданне. За апошні час былі асуджаны бракаробы Уліцін, Шарай, Іваноў, прагульшчыкі Мазур і Трэцінікаў. Мазур і Трэцінікаў рашэннем схода былі выключаны з радоў прафсаюза, Шарай быў выключан з ліку ўдарнікаў, Уліціну дана вымова.

З разгортваннем масавай работы падаў і процант брака, знізіліся страты цэха ад брака. Калі за першае паўгоддзе цэх меў страт ад брака 7710 руб., дык у ліпені страты дайшлі да 469 руб., а ў верасні—да 424 руб. Ліццё з цэха выпускаецца чыстае. Ліццё з вонкавым дэфектам мы адразу бракуем тут-жа на месцы.

Лепшыя кадравікі цэха Фёдараў і Шчарбакоў пільна сочаць не толькі за сваімі формамі, але яшчэ і паказваюць маладым фармоўшчыкам, як лепш зрабіць формы, прарэзаць літнік. Фёдараў і Шчарбакоў рэгулярна атрымліваюць прэміі за зніжэнне брака.

Брыгады фармоўшчыкаў ахоплены соцспаборніцтвам. Яны зьвязаны паміж сабою соцыялістычнымі дагаворамі на лепшае запаўненне 7-гадзіннага рабочага дня, знішчэнне брака. Паміж шышальнікамі, абрубшчыкамі таксама дзейнічаюць гэтыя дагавары.

Зараз, напярэдадні Кастрычніцкіх свят, цэх яшчэ з большай напружанасцю змагаецца за першынство ў конкурсе, за лепшую сустрэчу 16-й гадавіны Кастрычніка. На старонках газ. „П. П." мы паведамілі ўжо, што нашы ўдарнікі Шляхценка, Арлоўскі, Кабашнікаў, Казачкоў, Семянюк і Пляшкоў узяліся адліць звыш плана дэталі на паравоз і вагон.

Перад намі стаіць асабліва важная задача—гэта максімальна ўшчыльніць свой рабочы дзень. Зараз мы маем наступны малюнак. Фармаўшчыкі трацяць на карысную работу 86,8 проц., рабочага дня, шышальнікі—84,2 проц., абрубшчыкі—90,9 проц., а фармаўшчыкі па фармоўцы ў сухую—82,7 проц. Пытанне стаіць так і не інакш, каб на карысную работу былі максімальна выкарыстаны ўсе 420 хвілін. Калі мы гэтага даб'емся, значыць, мы пасапраўднаму апраўдаем званне лепшага ліцейнага цэха Гомельшчыны.

Брыгада ліцейшчыкаў:
Станкевіч, Рабчанка,
Пазнякоў.



# ЛІКВІДАВАЦЬ паўторнасць рамонта паравозаў

Тав. Філіпека, як комуніст, хоць па стажу малады—з 1932 г., але па рабоце стары, здолеў узорна паставіць работу ў брыгадзе, якая раней была адстаючай; у 1933 г. у комсамольца Душкевіча было 5 выпадкаў паўторнасці рамонта паравоза. Тав. Душкевіч і Жалезнякоў Б. не жадалі актыўна ўдзельнічаць у грамадскім жыцці і партгрупы, что, безумоўна, парушала соцумову брыгады, але т. Філіпека, дзякуючы ўмеламу кіраўніцтву шляхам грамадскага ўздзейнічання на даных таварашоў і сваёю непасрэднай увагай да іх дабіўся выпраўлення маючыхся недахопаў у рабоце брыгады і ўдзела ўсёй групы ў грамадскім жыцці. У адносінах да т. Душкевіча т. Філіпека паставіў сваёй мэтай выжыць маючыя месца моманты паўторнасці рамонта паравоза. Ён на працягу месяца сачыў за работай Душкевіча і кантраляваў якасць вытвараемага ім рамонта і на месцы разам з Душкевічам выпраўляў выяўленыя недахопы ў рамонце, адразу-ж прынімаў меры для папярэджвання паўторнасці рамонта, і дзякуючы такой пастаноўцы работы, з боку т. Душкевіча ўжо на працягу 3-х мес. няма ніводнага выпадка паўторнасці рамонта, а гэтым самым няма паўторнасці рамонта і ў партгрупе. У частцы прыцягнення б/п рабочага т. Жалезнякова Б. да актыўнага грамадскага жыцця групы т. Філіпека пасля прыняцця рада адпаведных мерапрыемстваў, уздзеяння на т. Жалезнякова, каб ён удзельнічаў у грамадскім жыцці, упэўніўшыся, што ўсе праведзеныя мерапрыемствы не дасягнулі сваёй мэты, ён знайшоў другі шлях: т. Філіпека даў заданне рэдактару штодзёнкі, каб той асвятляў работу т. Жалезнякова ў штодзёнцы, адзначыў яго прыкладнасць у выкананні прамфінплана, і калі ў штодзёнцы быў надрукаван гэты матар'ял і было сказана: „Бярыце прыклад з т. Жалезнякова", пасля гэтага т. Жалезнякоў сапраўды стаў цікавіцца грамадскім жыццём.

Дзякуючы ўмеламу кіраўніцтву партгрупай групparторг т. Філіпека дабіўся, што група па кансервацыі рамонта паравоза стала прыкладнай не толькі ў грамадскім жыцці, але і па якасці рамонта паравоза; т. Філіпека ва ўсёй рабоце з'яўляецца ініцыятарам праводзімых па цэху мерапрыемстваў; так, напрыклад, у сувязі з надыходзячым святам XVI гадавіны Кастрычніка т. Філіпека сумесна з партгрупай узяліся выпусціць паравоз № 50—Щ бескаштоўна, працуючы ва ўнеўрочны час і выклікалі на соцспаборніцтва астатнія брыгады цэха. Яны таксама адгукнуліся на заклік старшыні ячэйкі МОПР'а аб выпуску з рамонта за лік звыштэрміновых работ у падарунак МОПР'у паравоза 1581.

Трэба сказаць, што сакрэт паспяховай работы групparторга т. Філіпека, які ў ступенчатым дэпо са сваёй партгрупай лічыцца першым, заключаецца ў тым, што т. Філіпека сам з'яўляецца надзвычайна дысцыплінаваным і прыкладным у рабоце. Ён акрамя работы групparторга, мае нагрузку і ад бюро ячэйкі па кантролю выканання партыйных рашэнняў. На гэтай рабоце т. Філіпека сваім прыкладам, праверкай выканання партрашэнняў, выхоўвае астатніх комуністаў у сэнсе точнасці выканання партрашэнняў і даручаных брыгадзе і ячэйцы работ.

Усялякае праводзімае мерапрыемства т. Філіпека даводзіць да канца і патрабуе прыкладнасці і ад комуністаў, якія працуюць у групе, і ад комсамольцаў, умела арганізуе працу штодзёнкі вакол стаячых перад брыгадай задач. Усялякія недахопы ў рабоце брыгады не праходзяць без заўваг і абгаварэнняў самой партгрупы. Тав. Філіпека ўсю брыгаду і партгрупу зрабіў адзінай непарушнай і дружнай баявой рабочай адзінкай ва ўсёй рабоце. Брыгада, як адзін, удзельнічае ва ўсім рабочым жыцці групы. Ён дабіўся гэтага дзякуючы таму, што ён знае жыццё і зацікаўленасць літаральна кожнага члена партгрупы, а таксама дапамагае ім у практычнай рабоце, чаму ён і карыстаецца вялікай сімпатыяй да сябе з боку ўсіх рабочых групы.

Трэба ўсім астатнім парторгам браць прыклад з т. Філіпека.



Справа транспарта ёсць справа ўсёй партыі і рабочага класа. Прывітанне палітаддзелам на чыгунках—магутнай зброі ў барацьбе за большэвіцкую перабудову транспарта.

## Ніводнага зрыва спаранай язды

Наш паравоз комсамольскі, фізкультурны, Щ-3125 удзельнічаў у другім і трэцім саюзных конкурсах. Партгрупа на нашым паравозе налічвае 5 комуністаў і 1 б/п. У аснову сваёй работы я паклаў задачу палепшыць як работу паравоза, так і партыйна-масавую работу з такім разлікам, каб бачыць у сваёй штодзённай рабоце ўдзел кожнага члена групы ў праводзімых намі мерапрыемствах.

Я жадаю некалькі падзяліцца вопытам работы нашай партгрупы і работай нашага паравоза. Партгрупа на паравозе Щ-3125 арганізавалася ў лютым 1932 г., у момант абвяшчэння другога ўсесаюзнага конкурса паравозных брыгад. Я сумесна з групай паставіў сваёй задачай выйсці па конкурсу ў першыя рады, чаго мы і дабіліся пры дапамозе партыйных і комсамольскіх арганізацый дэпо. Наш паравоз заняў другое месца ў конкурсе па шляху. І па сканчэнні конкурса група змагаецца за тое, каб не аслабляць дасягнутых у перыяд конкурса рэзультатаў, а дабіцца яшчэ лепшага выканання вытворчых паказчыкаў.

У штодзённай рабоце групы мы ўдзяляем увагу рабоце нашага паравоза, выкананню нашых вымяральнікаў. Побач з гэтымі пытаннямі мы праводзілі і масава-палітычныя мерапрыемствы ў сваёй групе: мы першыя вышлі ў сваім паравозе ў падпісцы на IV завершаючы, падпісаўшыся на 120% і па пазыцы 2-й пяцігодкі 1-га году падпісаліся на 157%. Мы займаліся пытаннем па прапрацоўцы задач веснавой сяўбы, прапрацоўкай рашэнняў студзеньскага пленума. З аб'явай першага конкурса па ПВО мы ўключыліся з сваім паравозам у гэты конкурс і вызвалі на соцспаборніцтва паравоз Щ-5066 і 464. Мы рэалізавалі білетаў АСА на сваім паравозе ў сувязі з уключэннем у конкурс на 60 руб., узятыя на сябе абавязацельствы мы выканалі поўнасцю.

З абвешчаннем 3-га ўсесаюзнага конкурса паравозных брыгад наша партгрупа са сваім паравозам з снежня—1932 г. па красавік мес. 1933 г. ішлі ў першых радах і занялі 5 месца па чыгунцы.

У выніку такой пастаноўкі работы, калі мы побач з ударным выкананнем вытворчых вымяральнікаў неаслабна праводзілі партыйна-масавую работу, мы дабіліся, што ў нас на працягу з 1932 г. не было ніводнага выпадка зрыва спаранай язды, парушэння прац. дысцыпліны і спазнення паравоза ў шляху.

Парторг—Турык

## Не застанаўлівацца на дасягнутым

Партгрупа механічнага цэха старага дэпо самая вялікая з усіх груп, яна лічыць у сваім складзе 51 чал., з іх членаў партыі 13 чал., кандыдатаў 4 чал., комсамольцаў—1. Не гледзячы на вялікую колькасць складу партыйнай групы, мы ўсё-ж дабіліся ахапіць грамадскімі нагрузкамі 90 проц. працуючых у групе.

Наша работа праходзіць пад пунктам гледжання выканання вытворчых паказчыкаў і разгортвання масавай работы, пры актыўным удзеле ўсіх членаў групы. У гэтым вялікую дапамогу нам аказвае наша газета—штодзёнка, якая выходзіць па нашай групе рэгулярна праз кожных 5 дзён і адбівае на сваіх старонках штодзённую працу і жыццё нашай групы. Мы не радзей 1 раза ў 5 дзён склікаем партгрупу для абгаварэння пытанняў, якія адлюстроўвае газета.

Пасля абгаварэння рашэнняў ЦК і СНК аб перабудове работы чыгуначнага транспарта і аб рабоце палітаддзела мы паставілі сваёй асноўнай задачай перабудаваць сваю работу, каб рэалізаваць гэтыя важнейшыя рашэнні партыі.

Пытанне якасці работы ў групе пастаўлена ў цэнтры ўвагі. Ніводзін момант выпуску недобраякаснай прадукцыі не праходзіць без абгаварэння і рэагавання партгрупы, і калі меўся выпадак з боку токара нашай брыгады ператочкі падшыпніка, партгрупа паставіла пытанне аб пазбаўленні яго ўдарнай карткі. Мы выкрылі вартаўніка, які спаў на дзяжурстве, аб гэтым мы паставілі пытанне і яго звалілі.

Не гледзячы на зрух у паляпшэнні нашай работы, усё-ж мы ў сваей групе не дабіліся яшчэ поўнага выжыцця нядобраякаснага рамонта зап. частак і пастаноўкі прыкладнай працдысцыпліны, на гэтым мы зараз канцэнтруем нашу работу, каб дабіцца да XVI гад. Кастрычніка поўнага знішчэння даных недахопаў.

Парторг Клімовіч

Каб вывесці чыгуначны транспарт на шырокі шлях і пакончыць з яго недахопамі, трэба падняць у іх дух свядомай дысцыпліны і працоўнага спаборніцтва.

*(З пастановы ЦК аб палітаддзелах на чыгунцы).*

# УДЗЕЛ ПАРТАРГАНІЗАЦЫІ завода „ПРОЛЕТАРЫЙ" У КОНКУРСЕ НА ЛЕПШАЕ ПРАДПРЫЕМСТВА

## У барацьбе за ўшчыльненне рабочага дня

Абгаварыўшы дэталёва ліст ленінградскіх рабочых аб ушчыльненні рабочага дня і звярнуўшы належную ўвагу на становішча нашага завода і ў прыватнасці нашага цэху, мы не можам не адзначыць наяўнасці ў нас агідных з'явішчаў: наш рабочы дзень не ушчыльнен, адносіны да якасці выпускаемай прадукцыі, да варштатаў, інструмантаў і г. д. дрэнныя.

Бюро парт. ячэйкі занялося гэтым пытаннем, надаўшы яму сугуба палітычнае значэнне і сваім рашэннем паставіла перад кожным членам партыі задачу—весці рашучую барацьбу з усімі хваробнымі з'явішчамі, якія перашкаджаюць ушчыльняць рабочы дзень. З гэтай мэтай усе свае партсілы—8 членаў партыі, 4 кандыдатаў і 7 комсамольцаў—бюро парт'ячэйкі расставіла на ўсіх рашаючых участках, каб ушчыльніць рабочы дзень і працаваць бесперапынна 420 хвілін у дзень.

Ажыццяўляючы гэтае рашэнне, мы сустрэліся з шэрагам агідных адносін з боку паасобных рабочых да пытання аб ушчыльненні рабочага дня; рабочыя пачыналі працу пасля гудка на 15-20хв. пазней і канчалі яе за 15-20хв. раней гудка. Вакол гэтых фактаў мы складалі грамадскую думку, крытыкавалі тых рабочых, якія лодырнічалі і вялі размовы ў час працы і дрэнна адносіліся да варштатаў і г. д. А такіх рабочых у нас не адзін. Так работніца Штэйнэр замест таго, каб выконваць норму і ўшчыльняць свой рабочы дзень, траціла штодня на размовы не менш 2-х гадз., а потым скардзілася на тое, нібы нормы нерэальныя і выканаць іх ніяк нельга, гэта ў той час, калі другая работніца Петрашкевіч, ушчыльняючы свой рабочы дзень, норму гэтую нават перавыконвала. Работніца Абходзікава лодырнічала, нормы таксама не выконвала. Рабочы калектыў яе разаблачыў, як ілжэ-ўдарніцу і на гэтую працу паставіў работніцу Белкіну, якая давяла, што норма ўпаўне рэальна і яе магчыма нават перавыконваць.

Дрэнны догляд за варштатам меўся з боку работніцы Зогац, Каплан і інш. Вакол іх таксама была створана грамадская думка, як „абываценяў".



Брыгада такароў арматурнага цэха завода „Пролетарый" абмяркоўвае зменна-сустрэчнае планаванне.

Зараз мы прымацавалі да кожнага рабочага інструманты і патрабуем адказнасці за іх спраўнасць. Побач з лодарамі ёсць у нас і прыкладныя рабочыя.

Комуніст Гармін, парторг брыгады такароў, адыгрывае авангардную ролю, штодзённа на сваёй змене сочыць за ўшчыльненнем рабочага дня, за якасцю прадукцыі і за добраякасным доглядам варштатаў, у выніку чаго прамфінплан па яго групе выконваецца на 105—107 проц. штомесячна.

Комуніст Гамбург, старшыня цэхкома, вядзе рашучую барацьбу з лодырамі, абывацелямі, выконвае свой прамфінплан на 106—108%.

Комуністы Шолаш і Сухавершын па зборцы кандэнсац. гаршкоў далі сустрэчную норму на 10 штук.

Парт'ячэйка на падставе разгорнутага соцспаборніцтва і ўдарніцтва ахапіла ўсіх рабочых цэха ўдарніцтвам. На падставе штодзённай партмасавай работы, пад кіраўніцтвам парткалектыва, у сучасны момант мы выйшлі ў першыя шэрагі па выкананню прамфінплана. Значна палепшылася і працдысцыпліна, канчаткова знішчаны прагулы і спазненні, дабіліся мы адказнасці кожнага комуніста за ягоны участак працы. Цэх носіць званне Аса - авіяхімаўскай абароны. Усе рабочыя цэха з'яўляюцца членамі АСА і займаюцца ў стралковым гуртку.

У выніку мы маем выкананне прамфінплана за верасень месяц на 111% і за кастрычнік—на 109%.

Сакратар парт'ячэйкі арматурнага цэха,
Пастухоў.

# Работа партгрупы кавальскага цэха зав. „Пролетарый“

Рыхтуючыся да Кастрычнікавых свят, мы заключылі соц. дагавор з брыгадай „Рух. рэволюцыі“ на лепшае выкананне плана, на разгортванне партмасавай работы. Зараз я жадаю падвесці вынік соцспаборніцтва.

У мяне ў брыгадзе налічваецца 37 рабочых, з іх 4 комуністы. Не гледзячы на такую нязначную партпраслойку, мы увесь час ідзем па заводу“ у ліку перадавых брыгад па выкананню прамфінплану і масавай рабоце. 15 рабочых брыгады, у тым ліку і ўсе комуністы, маюць ударныя карткі, а лічбы выканання імі плана кажуць, што яны сапраўдныя ўдарнікі вытворчасці. Вось некалькі такіх ударнікаў. Рабочы т. Крычаўцоў—жнівень—184 проц., верасень-148 проц., кастрычнік—101 проц. Член партыі т. Ліўшыц—жнівень—145 проц., верасень і кастрычнік—150 проц. Член партыі Ткач: жнівень 115 проц., верасень і кастрычнік—120-125 проц. Такімі-ж лепшымі ўдарнікамі з'яўляюцца Конаў, член партыі, Эстрын, Бебэлеў, Сліозберг, якія выконваюць і сістэматычна перавыконваюць свой прамфінплан да 125 проц.

У брыгадзе меліся выпадкі, калі паасобныя рабочыя, як Шнайшпер, не выканалі плана, мы, уключыўшыся ў агульнагарадское перадкастрычніцкае соцспаборніцтва, заключыўшы соц. умову з брыгадай зав. „Рухавік рэволюцыі“ не маглі надалей цярпець такіх з'явішч, склікалі сходы брыгады, заслухалі справаздачу рабочых, якія не выконвалі прамфінплана, і вось вынік—Шнайшпер цяпер выконвае прамфінплан. Наша партгрупа на заводзе лічыцца ўдарнай, мы ўсе маем ударныя карткі, выконваем прамфінплан, не прапускаем самі вучобы і абавязкова ўцягваем у школу ўсіх рабочых нашай брыгады.

Спачатку навучальнага года ў нас было некалькі рабочых, якія адмаўляліся падвышаць свой палітузровень—Эрэнбург, Дамені, Каржоў, мы некалькі разоў з імі ў брыгадзе гутарылі, але гэта не дапамагло. Тады на партгрупе пастанавілі напісаць пісьмо іх сем'ям, наступнага зместу: Вашы бацькі і муж'я не ўдарнікі таму, што не жадаюць вучыцца, і гэта прымусіла і ўпарта супраціўляўшыхся пайсці вучыцца.

Кожны дзень да пачатку работы мы праводзім 10-хвілінныя нарады, падводзім вынікі мінулага дня і намячаем, што трэба зрабіць за сённяшні рабочы дзень.

Па абвяшчэнні сталінскага пахода мы першыя па заводу ачысцілі свой цэх і зараз па чыстаце ідзем першымі па заводу. Наш партарганізатар т. Ліўшыц кожны дзень у час абедзенага перапынку праводзіць чыткі газет, альбо праводзіць якія-небудзь гутаркі, па яго ініцыятыве ўсе рабочыя нашай брыгады ахоплены грамадскімі т-вамі.

Вось як мы выканалі свой соц. дагавор. з брыгадай „Рухавіка рэволюцыі“.

Парторг Эстрын

# Парторг у баку ад брыгаднага жыцця

(Брыгада па зборцы насосаў мех. цэха зав. „Пролет.“.)

Брыгада па зборцы помпаў „Верцінгтона“ з'яўляецца выключна маладзёжнай брыгадай, яна складаецца галоўным чынам з комсамольцаў. Яна і адыгрывае значную ролю ў выкананні плана цэха. Партгрупа складаецца з 3-х комуністаў. Здаецца, што парторг т. Малец мае поўную магчымасць для таго, каб узмацніць партківраўніцтва брыгадай, аказаць штодзённую дапамогу комсамольскаму групоргу і прымусіць брыгаду працаваць так, каб яна заваявала пяршынства па заводзе. Але т. Малец замест канкрэтнага кіраўніцтва і наладжвання партмасавай работы займаецца шуміхай, а сам парушае працдысцыпліну, не з'яўляецца узорным работнікам. Вось прыклады: калі брыгада ў большасці сваёй працуе на пershай змене, дык парторг выходзіць на другую змену з тым, каб увільнуць ад правядзення партмасавай работы і каб сумець застацца працаваць звышчасова на 3 змене.

У маі і ў чэрвені брыгада за дрэнную якасць прадукцыі была занесена на чорную дошку. Малец, як парторг, замест мабілізацыі калектыва на ліквідацыю гэтага прарыва, пачаў агітаваць, нібы ў брыгадзе якасць добрая, і на чорную дошку яна занесена няправільна, у маючымся браку брыгада не вінавата, а вінават выключна чыгуна-ліцейны цэх. І толькі дзякуючы дапамозе з боку трохкутніка цэха і пры ўдарнай рабоце членаў брыгады, мы ў канцы чэрвеня ліквідавалі прарыў па выпуску дрэннай якасці прадукцыі і дабіліся зняцця з чорнай дошкі. Але гэта было зроблена без удзелу партарганізатара, які і цяпер працягвае сваю бяздзейнасць.

Брыгада мае шэраг дасягненняў; прамфінплан выконваецца штомесячна па кольнасных і якасных паказчыках, брыгада рэагуе на пэўны канкрэтны выпадак дрэннай якасці, парушэння працдысцыпліны.

Парткалектыву неабходна вылучыць новага парторга, а вакол „працы“ т. Малеца стварыць грамадскую думку, каб паказаць іншым парторгам завода, як нельга працаваць. Дзіўна толькі, чаму бюро цэх. ячэйкі калектыва і парткалектыва да гэтага часу не рэагавалі на „работу“ парторга Малеца.

Міхлін.

# ДАБІЛІСЯ ПАЛЯПШЭННЯ ЯКАСЦІ

Парторг брыгады шышэльніц чыгуна-ліцейнага цэха зав. „Пролетарый“ т. Блюмкіна

Брыгада наша ў большасці сваёй жаночая. З 19 чал.—13 жанчын. Брыгада вырабляе шышкі для форм, ад якіх залежыць канчатковы працэс фармоўкі і заліўкі.

Партгрупа складаецца з 2-х членаў і 2 х кандыдатаў партыі, маюцца 3 комсамольцы. Кожны з нас мае канкрэтную партнагрузку: Фішбейн—жанарганізатар і групавы агітатар, Язерская—рэдактар штодзёнкі і сакратар шэф. таварыства, я—партарганізатар. Комсамольцы таксама выконваюць шэраг канкрэтных абавязкаў. Партнагрузкі членамі партыі брыгады выконваюцца добра.

Партгрупа збіраецца перыядычна і абгаварвае пытанні бяг. работы сваёй брыгады і рад палітычных пытанняў, пасля чаго прапрацаваныя на партгрупе пытанні пераносяцца ў брыгаду.

За апошнія 3—4 мес. на партгрупе абгаварваліся пытанні аб ролі комуністаў на вытворчасці, аб чыстцы партыі, аб падрыхтоўцы і правядзенні конкурса на лепшую брыгаду, аб разгортванні індывідуальнага соцспаборніцтва, аб якасці прадукцыі, аб рабоце штодзёнкі і інш. пытанні.

Партгрупа таксама заслухала справаздачы комуністаў, як яны выконваюць свае нагрузкі; пры справаздачы прысутнічала шмат б/п членаў брыгад, каторыя ўказвалі на недахопы таго ці іншага таварыша ў яго працы.

Дзякуючы нашай рабоце мы дабіліся значнага паляпшэння якасці прадукцыі, паднялі кваліфікацыю ў новых рабочых, так—комуністка Фішбейн абавязалася за кароткі срок навучыць комсамолку Назарову вырабляць складаныя шышкі. Комуністы паказваюць авангардную ролю: кандыдат партыі Язерская працуе радам з Крахманавай, дае лепшую прадукцыю. Фішбейн і Штэйнрук выконваюць лепшую якасць прадукцыі і своечасова-заказы. Усе комуністы партгрупы ахоплены партвучобай і акуратна наведваюць школы, а таксама добра паспяваюць. Усе падпісаліся на пазыку і соцстрахаванне. Брыгадай разгорнута соцспаборніцтва. За апошні квартал брыгада выканала прамфінплан на 87 проц., што тлумачыцца несвоечасовай падачай патрэбнага матар'яла. На днях на пасяджэнні партгрупы мы вызначылі шэраг мерапрыемстваў для ліквідацыі маючыхся прарываў. Брыгада працуе на гасп. разліку. На 3-ці квартал пры выкананні плана на 87 проц. дала паднаццё вытворчасці працы на 112,2 проц., с'эканомілі 803 працадні і атрымалі прэміі звыш зарплаты 248 руб. 93 к.



тав. Смірноў—рабочы фармоўшчык, работае без браку, сакратар цэхавай ячэйкі на заводзе „Пролетарый“

**Было-б глупа думаць, што вытворчы план зводзіцца да пераліку цыфр і заданняў, на самай-жа справе вытворчы план ёсць жывая і практычная сапраўднасць мільёнаў людзей (СТАЛІН)**

У артыкуле т. Пірожнікава паказаны лепшыя узоры партмасавай работы водніцкіх ячэек. Дадатны вопыт работы лепшых судовых ячэек павінен стаць дасягненнем судоў, партоў і прыстаняй усяго воднага транспарта, з'яўляючагася ў сучасны момант адстаючым участкам народнай гаспадаркі.

# Прыклад большэвіцкай работы

У поўнай гатоўнасці з цесна злітаванай дысцыплінавай камандай параход „Марат" уступіў у навігацыю 1933 года. З першых-жа дзён на галоўных участках работы былі пастаўлены комуністы. Аляксеенка пам. к-ра, Целепнеў—пам.—машыніста, Чубараў—пам. механіка, гэтыя—адданыя сваёй справе комуністы ўзначальваюць самыя адказнейшыя ўчасткі работы судна.

Узайдзіце на параход „Марат" спусціцеся ўніз, у машыннае аддзяленне, прыгледзьцеся да работы каманды—і ў рабоце кожнага ўдзельніка яе вы заўважыце дзелавую дакладнасць і свядомасць, адказнасць за даручаную яму працу. Гэтую свядомасць і адказнасць выхавала ў удзельнікаў каманды партгрупа шляхам шырокага разгортвання палітычнай і масавай работы.

Комуністы на параходзе паказваюць сваю сапраўдную авангардную ролю. Тав. Аляксеенка з'яўляецца выпрабаваным матросам, які добра ведае сваю справу і сумлена адносіцца і да яе. Пасьпяховая работа парахода як нельга лепей характарызуе яго як комуніста.

Парторг Целепнеў працуе пам. машыніста. Ён пільна сочыць за тым, каб машына працавала, як гадзіннік, сочыць за чыстатой, за сваячасовай змазкай механізмаў, за правільным ціскам пара, цвёрда памятаючы, што ён нясе двайную адказнасьць, як працаўнік і як комуніст за даручанае яму сэрца судна—машыну.

Такім-жа прыкладным у рабоце з'яўляецца і т. Чубараў пам. механіка. Паказваючы ўзор большэвіцкай работы, яны цягнуць за сабой усю каманду, з'яўляючыся застрэльшчыкамі сацспаборніцтва і ўдарніцтва.

Каманда парахода ўпарта змагаецца за першынство, моцна трымаючы пераходны сцяг, які адтрымала яшчэ ў 1932 навігацыйным годзе.

Як-жа партыйная група парахода і ўзначальваемая ёю каманда дабілася гэтых поспехаў у сваёй рабоце? Перш за ўсё з першых дзён навігацыі была разгорнута рашучая барацьба за моцную працдысцыпліну, барацьба з цякучасцю працоўнай сілы. Гэта дала свае вынікі. На параходзе за час навігацыі не было ніводнага выпадка парушэнняў працдысцыпліны, поўнасцю ліквідавана цякучасць сярод каманды.

З першага-ж часу навігацыі параход сустрэўся з перашкодамі, якія заключаліся ў частых простоях з прычыны таго, што пагрузка паліва на прыстанях не была забяспечана патрэбнай колькасцю грузчыкаў. Парторг т. Целепнеў паставіў пытанне аб гэтым на вытворчай нарадзе. Нарада прыняла рашэнне, каб самім рабіць пагрузку вугля. Пры першай-жа пагрузцы т. Целепнеў першы паказаў прыклад, шчыра прыняўся за работу. За ім за пагрузку ўзялася ўся каманда, і цяпер сістэматычна пагрузка вугалю праводзіцца сіламі самой каманды. Гэта канчаткова знішчыла прастоі.

На параходзе жорсткая барацьба не толькі за колькаснае выкананне навігацыйнай праграмы, але і за высокія якасныя паказчыкі работы. Той факт, што параход на працягу навігацыі не меў ніводнага рамонта, ніводнага прастоя, ніводнай аварыі, сведчыць аб высокай якасці работы. Калі выяўляецца патрэбнасць у бягучым рамонце, каманда парахода тут-жа на ходу вытварае гэты рамонт, ліквідуючы такім чынам пагрозы простояў.

Найлепшай ацэнкай работы партыйнай групы і каманды парахода наогул з'яўляюцца паказчыкі выканання транфінплана за навігацыю 1933 г. За май месяц план выканан на 101%, за чэрвень—на 102% за ліпень 140, за жнівень 105 і за верасень 107 процантаў. Па скарыстанню ходавага часу параход мае таксама добрыя паказчыкі. Пры норме ў 80 прц. параход сістэматычна дае выкананне плана ў гэтай галіне ад 81 да 87 процантаў.

Палітвучоба і тэхнічная вучоба, насценгазета адыгралі немалую ролю у поспехах буксірнага парахода „Марат". Палітычным і тэхнічным гуртком ахоплена ўся каманда. Праведзены 24 гутаркі па тэхнічных пытаннях з ніжняй камандай і 19—з верхняй

Такія вынікі работы партгрупы парахода „Марат".

У цяперашні час каманда парахода праводзіць праверку выканання ўмоў усебасейнавага конкурса і ўмоў спаборніцтва з чыгуначнікамі. Правяраецца дакладна выкананне кожнага абавязацельства. Гэтая праверка мабілізуе каманду на барацьбу за яшчэ вышэйшыя паказчыкі, на ліквідацыю недахопаў, якія заключаюцца ўва ўсё яшчэ слабай культурнай рабоце, не рэгулярным выхадзе насценгазеты і г. д.

Гэтыя недахопы навінна ўлічыць партгрупа ў сваёй далейшай рабоце. Станоўчы вопыт яе работы павінен быць шырока скарыстаны партгрупамі і парторгамі іншых параходаў і берагавых адзінак. У партгрупы парахода „Марат", у парторга Целепнева ёсць чаму павучыцца, ёсць што пераняць:

М. Пірожнікаў
А. Дамброўскі

# СЛОВА МАЕ СЕЛЬМАШ

У перыяд першай пяцігодкі мы сумелі арганізаваць энтузіазм, пафас новага будаўніцтва і дабіліся рашаючых поспехаў. Гэта вельмі добра. Але цяпер гэта недастаткова. Цяпер гэту справу мы павінны дапоўніць энтузіазмам, пафасам асваення новых заводаў і новай тэхнікі, сур'ёзным падняццем прадукцыйнасці працы, сур'езным зніжэннем сабекаштоўнасці—у гэтым цяпер галоўнае.

*(З даклада т. СТАЛІНА на аб'яднаным студзенскім пленуме ЦК і ЦКК)*

# ПРАЦАВАЦЬ ПОЎНЫХ 420 ХВІЛІН

Сакратар парт'ячэйкі механічнага цэха зав. Сельмаш Кеслер.

Работу па ўшчыльненні рабочага дня мы пачалі прапрацоўкай адозвы ленінградскіх рабочых.

Абгаварыўшы гэту адозву, агульны сход ухваліў наступнае: „Мы маем усе магчымасці, каб выканаць лозунг Ц. О. „Праўды“ і адозвы. Самы кароткі ў свеце 7- гадзінны рабочы дзень павінен быць і самым прадукцыйным“. Працаваць поўных 420 хвілін, такі абавязак узяў на сябе кожны рабочы нашага цэха. Разам з гэтым рабочыя высунулі шэраг каштоўных прапаноў, каб лепей ушчыльніць рабочы дзень. Напрыклад, раней рабочыя цэлую гадзіну трацілі на тое, каб навастрыць інструманты, а цяпер, па прапанове аднаго рабочага ўвесь інструмант пасля работы здаецца брыгадзіру і на наступны дзень, прышоўшы на работу, рабочыя атрымліваюць яго навостраным. Ад гэтага мы маем штодзённа 30 гадзін эканоміі рабочага часу па цэху. Ліквідавана затрымка ў падачы дэталяй, знішчана сканчэнне работы за 15—20 хвілін да гудка, і на гэтым мы маем таксама штодзённую эканомію толькі па адной змене да 20 гадзін. Раней у нас была пастанова канчаць работу за 10 хвілін да гудка, каб атрымаць магчымасць пачысціць свае варштаты, цяпер-жа рабочыя адзінагалосна прынялі прапанову аб тым, каб працаваць да поўных 4-х гадз., пасля гэтага ўдзяліць 10 хв. на чыстку варштата, 5 хв. на перадачу яго другой змене і, такім чынам, канчаць працу ў 4 гадз. 15 хв., а другой змене ў 12 гадз. 15 хв. Гэтым самым мы дабіліся максімальнага ўшчыльнення рабочага дня і выканання лозунга працаваць поўнасцю 420 хвілін.

У выніку ўсёй гэтай работы за верасень месяц і цяпер за кастрычнік мы маем значнае павялічэнне заработнай платы па нашаму цэху і ў падарунак Кастрычніцкім святам амаль палова рабочых добраахвотна знізілі расцэнкі.

Так мы арганізавалі работу па барацьбе за ўшчыльненне рабочага дня.

Кеслер

# Апраўдаем званне сваёй брыгады

Рабенькі (брыгадзір маладзёжн. брыгады імя Чамаданава ліцейны цэх зав. Гомсельмаш).

Мая брыгада за верасень месяц свой прамфінплан выканала на 112 проц. Брак замест планавых 5,5 проц. мы давялі да 5,02 проц. Эканоміі брыгада мела 65 р., за што атрымала ў прэмію 35 руб.

За 25 дзён кастрычніка, рыхтуючыся к XV-годдзю комсамола, мая брыгада выканала прамфінплан на 107,9 %, брак давялі да 4,6 проц. (ніжэй тэхнічнага).

Гэтыя поспехі па брыгадзе былі дасягнуты выключна таму, што ў сваёй практычнай рабоце мы няўхільна выконвалі ўказанне нашага любімага правадыра тав. Сталіна: „даганяй лепшых, падцягвай адстаючых —даб'емся агульнага ўздыму“. Мы ў сваёй брыгадзе раніцай перад работай штодзённа праводзім 10-хвілінныя нарады, даючы ацэнку лепшым, падганяючы адстаючых, і, як вынік, наша брыгада зараз адна з перадавых па заводу.

Зараз асноўны ўпор усёй нашай работы мы накіроўваем на паляпшэнне якасці нашай прадукцыі, на барацьбу з бракам, і ў паасобныя дні брак у нас зніжаецца нават да 2,09 проц.

Наша мэта дабіцца таго, каб гэта зніжэнне было не выпадковым, а сталым з'явішчам, і мы гэтага даб'емся таму, што гэта жаданне не толькі маё, а і кожнага камсамольца брыгады.

# ТОЛЬКІ ЗАРАЗ СТАЛА ІСНАВАЦЬ ПАРТГРУПА

Парторг зборачнага цэха завода Гомсельмаш—т. Кунцэвіч

2 месяцы назад наша партгрупа існавала толькі на паперы, і, праўду сказаць, я сам не ведаў, што мне трэба рабіць, як парторгу, каб з сваёй партгрупай выйсці ў шэрагі перадавых.

Але на дапамогу мне прыйшла парт. ячэйка: разгортваючы перадкастрычніцкае соцспаборніцтва, яна паказала мне шлях, па якім я павінен весці разгортванне соцспаборніцтва паміж рабочымі. Цяпер усе рабочыя маёй брыгады заключылі паміж сабою соцумовы, а мы, трохкутнік брыгады, разам з усёй брыгадай, правяраючы кожнага ўдарніка, абгаварваем, як кожны з іх выконвае ўзятыя на сябе абавязкі.

Вялікім тормазам у нашай рабоце былі бракаробы, напрыклад: рабочы Харломаў. Абгаварыўшы гэта пытанне ў сябе ў партгрупе, мы рашылі рабочага Харломава ўзяць пад асабісты нагляд. Спачатку гутарылі з ім, паказвалі, як трэба працаваць, а калі заўважылі, што з гэтага нічога не выходзіць, дык павесілі каля яго варштату карыкатуру бракаробаз паказаннем, якоезло бракаробства для завода і дзяржавы. Харломаў спачатку раззлаваўся, але патрабаваў большага інструктажа, і цяпер ён ідзе разам з перадавымі рабочымі.

Штомесячна па цаху мы ўдзяляем 3 дні для работы партгрупы. На пасяджэннях партгрупы правяраем, як камуністы вучацца, і іх нагрузку.

Вынікам такой нашай работы з'яўляецца-100,5 проц. выканання плана па выпуску машын, 102,4 проц. вытворчасці працы гэта за верасень месяц; за 27 дзён кастрычніка месячны план мы выканалі на 100 проц, да 30-га кастрычніка 1933 г. зверх плана выпусцілі 9 машын. За гэтыя 6 дзён лістапада мы ўзялі на сябе абавязак у падарунак XVI гадавіне даць 2 машыны, і мы іх ужо зрабілі.

Зараз, разам з усёй партыяй, у аснову ўсёй сваёй работы мы паклалі барацьбу за якасць прадукцыі.

Кунцэвіч.



„Галоўны ўпор павінен быць зроблен не на колькасны рост прадукцыі, а на паляпшэнне якасці прадукцыі і рост прадукцыйнасці працы“.

(З пастановы студзеньскага пленума ЦК і ЦКК УсеКП(б).

# КАНДЫДАТУ ПАРТЫІ І СПАЧУВАЮЧАМУ—БОЛЬШЭВІЦКАЕ ВЫХАВАННЕ

## Социялістычны рахунак

Калі камісія па чыстцы зачытвала вывады, Слуцкіна адсутнічала. У гэты вечар сядзела яна на занятках у рабфаку, збянтэжана сачыла за словамі настаўніка і хвалявалася. Думкі былі не на лекцыі, а там, у клубе, дзе перад вялікай аудыторыяй рабочых старшыня правертройкі, перагортваючы доўгія лісты пратаколаў, павольна зачытваў: „...лічыць праверанымі, ...перавесці з членаў у кандыдаты, ...выключыць...“

Бясконца марудна цягнулася лекцыя.

Што скажа старшыня пра яе. Няўжо?.. Слуцкіна ўстрахнула галавой, быццам-бы хацела адагнаць гэтым назойлівыя думкі. Яскрава ўсплылі ў памяці апошнія пяць год жыцця.

У 29 годзе прышла работаць на фабрыку „Комінтэрн“. Хутка асвоілася і прывыкла да работы белашвейнага цэха. Уцягнулася ў грамадскае жыццё. Выбралі ў вытворчы сектар цэхкома, работала ахвотна, расла на рабоце. У 32 годзе., так, гэта было ў 32 годзе зімою, Слуцкіна ніколі не забудзецца на шчаслівейшы дзень свайго жыцця, калі прынялі яе ў кандыдаты партыі. А зараз?..

Лекцыя скончылася. Адганяючы нахлынуўшыя ўспаміны, на ходу зашпільваючы паліто, спяшаецца Слуцкіна ў клуб.

— Выключылі?!—усхвалявана кінула першаму стаячаму каля дзвярэй.

— Не, не выключылі. За палітычную непісьменнасць перавялі з кандыдатаў у спачуваючыя.

Нахмурылася, але ўздыхнула крыху лягчэй.

— Вядома, інакш і не магло быць. Правільныя вывады камісіі. Я не змагла адказаць пры чыстцы ні на адно палітычнае пытанне, не ведала праграмы і статута партыі, значэння дня жніўня, не змагла назваць у чым была сутнасць спрэчак паміж Леніным і Мартавым па пытанню аб тым, хто можа быць членам партыі. Я, нібы нямая, стаяла перад камісіяй па чыстцы.

Слуцкіна нізка схіліла галаву. Чырвань сораму марудна папаўзла па твары, заліла шчокі, вушы, і, здавалася, пачырванелі карэнні валос.

— Палітычна непісьменная. А каб мець права быць у радах авангарда рабочага класа, у радах партыі, паказваючы прыклад гераічнай барацьбы, быць членам сталёвай ленінскай партыі большэвікоў, трэба быць палітычна пісьменным, узброеным тэорыяй Маркса-Леніна-Сталіна. А я?..

Хвіліна цяжкага думання, а потым выпрасталася, высока закінула галаву і бадзёра, упэўнена павярнулася ў бок прэзідыума.

Камісія мае рацыю ў сваіх вывадах, яна, Слуцкіна, не работала над сабою, не наведвала партыйную школу, не чытала газет. Калі партыйны калектыў высунуў яе на работу ўпаўнаважанай па падпісцы на газеты, было дастаткова свабоднага часу паработаць над кнігай і над газетай... Чаму партыйны калектыў не прывучыў яе да вучобы, чаму ні разу сакратар партыйнай ячэйкі не пагаварыў з ёю аб тым, што трэба вучыцца, трэба работаць над сабою. Ніхто з таварышоў старых комуністаў не зацікавіўся тым, чым жыве яна. Слуцкіна—малады кандыдат партыі. Ёй-жа нават не далі грамадскай нагрузкі. Вось ужо сёмы месяц, як яе ўдзел у партыйным жыцці фабрыкі абмяжоўваецца тым, што яна адсіжвае пэўную колькасць гадзін на сходах, рэдка наведвае ўчобу. Больш так не павінна быць. Партыйны калектыў забудзе на яе, але чыстка добрая школа. Слуцкіна ведае цяпер як трэба работаць над сабою, каб быць вартай стаць у рады ленінскай партыі.

Хвалюючыся, захлынаючыся словамі, хутка зашаптала суседцы:

— Я прад'яўляю сакратару, бюро, усяму партыйнаму калектыву соцыялістычны рахунак. Я абавязуюся рэгулярна наведваць вучобу, сачыць за газетай, выпісаць і чытаць часопіс „Большэвік“ і несці грамадскую нагрузку, але я патрабую... Слуцкіна павысіла голас...—я патрабую ад партыйнага калектыва больш увагі да сябе, больш увагі да кандыдатаў партыі і да нас, пераведзеных у спачуваючыя. Няхай прымацуюць да мяне каго-небудзь з старых комуністаў. Я хачу кожны дзень, кожную гадзіну, кожную хвіліну адчуваць над сабою партыйнае вока. Незразумела штонебудзь у кнізе, ці ў газеце, буду ведаць, да каго звярнуцца за растлумачэннем. Я патрабую, каб мне далі грамадскую нагрузку, каб дапамагалі мне выконваць яе, каб сачылі за тым, як я работаю.

Выбіўшыяся з-пад касынкі курчавыя, валасы рассыпаліся па твары, але Слуцкіна не заўважвала гэтага. Бліскаючы вачыма, горача, упэўнена гаварыла:

— Чыстка навучыла многаму. Буду работаць над сабою. Хачу і буду ў радах партыі.

Апошняя фраза прагучэла звонка на ўсю залу.

Партыйны калектыў павінен прыняць соцыялістычны рахунак Слуцкінай і дзесяткаў такіх, як яна, кандыдатаў партыі і спачуваючых, якім трэба дапамагчы авалодаць тэорыяй Маркса-Леніна-Сталіна.

# „Я НЕ ЧУЖАК"

На партыйным сходзе аб задачах і значэнні чысткі дакладчык казаў: „Партыя робіць чыстку на гістарычных паваротах". І далей ён зрабіў невялікі успамін гэтых „гістарычных" паваротаў 21, 24, 29 і нарэшце зараз—33 год.

Яго даклад і пасля сама чыстка нашай парт'ячэйкі прымусілі мяне аглянуцца на мой жыццёвы шлях і ролю, якую я адыгрывала ў нашым маленькім калектыве.

Я 8 год працую на ф-цы „Казімі". У 1927 годзе я ўступіла ў комсамол, у 1931 г.—у кандыдаты партыі; 6 год ужо павінна была жыць разам з перадавой часткай моладзі—варыцца ў большэвіцкім катле, узначальваць работу, вучыць і весьці за сабою б/п масу. А камісія па чыстцы за палітычную непісьменнасць перавяла мяне з кандыдатаў у спачуваючыя.

Рашэнне камісіі па чыстцы зусім правільнае: палітычна непісьменны—гэта баласт, які перашкаджае партыі ісці наперад. Я, будучы 3 гады кандыдатам, не скарыстала кандыдацкага стажа для падрыхтоўкі да перавода ў члены партыі; пры ўсёй маёй любві к партыі не магу заставацца ў ёй, я вінавата ў гэтым. Але я хачу запытаць ячэйку, ці не яе гэта была справа займацца мной і астатнімі 5 кандыдатамі, якія былі пераведзены ў кандыдаты і спачуваючыя? Чаму зараз, пасьля чысткі, калі я пачала працаваць над сабой, наведваць школу, чытаць газету, ячэйка не зьвяртае на мяне ўвагі, чаму цяпер я адчуваю сябе зусім адарванай ад партжыцця? Мяне-ж толькі за палітычную непісьменнасць, а не за чужыя настроі перавялі ў спачуваючыя. Я патрабую ад ячэйкі большай увагі да сябе. Прапаную ў далейшым праводзіць сістэматычную палітвыхаваўчую работу сярод кандыдатаў і спачуваючых з тым, каб мы не адчувалі сябе адарванымі ад партжыцця.

Спачуваючая Данская

# Сістэматычна праводзіць работу з кандыдатамі

Я—работніца ф-кі „Казімі", працую на вытворчасці 17 гадоў. У партыю ўступіла ў 1931 годзе, але, уступіўшы ў партыю, я сама, а разам са мною і бюро парт'ячэйкі забыліся, што комуніст павінен быць у авангардзе, мы запамяталі заветы нашага настаўніка т. ЛЕНІНА, які казаў, што „ролю перадавога барацьбіта можа выканаць толькі партыя, кіруючаяся перадавой тэорыяй".

Толькі чыстка партыйнай арганізацыі прымусіла і мяне і бюро партыйнай ячэйкі заняцца падвышэннем узроўня комуністаў, але мы позна ўзяліся за гэтую справу. Да чысткі я не паспела як належыць падрыхтавацца, не адказала на пытанне „для чаго патрэбен статут" і інш., і мяне перавялі ў кандыдаты партыі.

На сходзе, пачуўшы, што мяне, работніцу, прапрацаваўшую 17 год на вытворчасці, пераводзяць з членаў партыі ў кандыдаты, я ад сорама і абразы сказала сабе: „Ну, і няхай"... Але я не дала далей развіцца гэтай шкоднай думцы, сама спужалася таго, што я жадала сказаць, і, ідучы са сходу, цвёрда рашыла, што трэба вучыцца, трэба на справе стаць авангардам.

Зараз я зноў рыхтуюся да ўступлення ў партыю; выконваю дырэктывы камісіі па чыстцы аб узняцці свайго палітузроўня; наведваю акуратна 6-мес. партшколу, сістэматычна чытаю газеты.

На вытворчасці я з'яўляюся ўдарніцай, перавыконваю промфінплан па ўсіх паказчыках.

Вялікім недахопам з'яўляецца тое, што ячэйка з намі, пераведзенымі ў кандыдаты і спачуваючыя, ніякай работы не праводзіла, ні разу нас не сабрала, каб правесці гутарку, не давала ніякіх указанняў у рабоце. Я лічу, што парт'ячэйка павінна сістэматычна праводзіць работу з кандыдатамі і спачуваючымі, каб мы маглі хутчэй падрыхтавацца да ўступлення ў партыю.

Кандыдат партыі

Штуціна

„Нельга забывацца на тое, што ўсякі член партыі адказны за партыю, і партыя адказна за ўсякага члена партыі. Наша задача—ахоўваць цвёрдасць, вытрыманасць, чыстату нашай партыі".

Ленін.

„Зараз самаахвярнасць, адданасць, дысцыплінаванасць члена партыі правяраюцца не на агульнай яго „прынцыповай“ згодзе з генеральнай лініяй партыі, а на канкрэтнай барацьбе за матар'яльны змест генеральнай лініі, за ажыццяўленне планаў соцыялістычнага будаўніцтва“. (КАГАНОВІЧ).

# ЗАРАЗ ЛЕПШЫ БРЫГАДЗІР

Тав. Саранчук да чысткі партыі зусім не цікавіўся партыйнай работай, не выконваў ніякіх нагрузак і даручэнняў, якія даваліся яму ячэйкай, ігнараваў партыйную вучобу, некалькі раз падвяргаўся партыйнай адказнасці за адрыў, нявытрыманасць і ўпартае нежаданне работаць над сабой з тым, каб павысіць свой палітычны ўзровень. У час чысткі Саранчука выступаўшыя таварышы рашуча асудзілі непартыйныя яго ўчынкі, яго нявытрыманасць і нежаданне прымаць актыўны ўдзел у барацьбе цэхавых арганізацый за выкананне плана і мабілізацыю ўсіх рабочых цэха на ажыццяўленне дырэктыў партыі.

У выніку гэтага тав. Саранчук быў пераведзен з членаў у кандыдаты партыі. Тут ён зразумеў, што быць комуністам, насіць высокае званне члена партыі ён зможа толькі тады, калі ўпарта будзе змагацца за павышэнне свайго тэарытычнага ўзроўня. Зараз ён не толькі прыкладны слухач, а і староста гадавой школы, у якой сур'ёзна ўзяўся за арганізацыю вучобы, устанаўленне цвёрдай школьнай дысцыпліны ў групе, разгарнуў індывідуальнае соцспаборніцтва на лепшую паспяховасць.

Тав. Саранчук узяў на сябе абавязак да канца года не мець ні воднага пропуска, засвоіць распрацоўваемы матар'ял „на добра“, і ў цэху актыўна змагацца за выкананне плана і паляпшэнне якасці прадукцыі.

Тав. Саранчук умее слова ператвараць у справу, умее выконваць свае абавязацельствы, аб гэтым сведчаць яго паказчыкі: за верасень м-ц план выканан на 112 проц., за кастрычнік на 117 проц., вытворчасць працы на 115 проц. Яго брыгада (ён гаспразліковы брыгадзір) імя АСА праграму кастрычніка м-ца выканала за 3 дні да тэрміну і па яго ініцыятыве ў падарунак XVI гадавіне Кастрычніка выпусцілі дзве саламарэзкі.

Тав. Саранчук уключыўся ў партыйную работу цэха і пабольшэвіцку выпраўляе ўсе свае недахопы з тым, каб падрыхтавацца к пераводу з кандыдатаў у члены партыі.

Суражская.

# Калі будуць рэалізаваны прапановы камісіі па чыстцы?

Невысокага роста, у паношанай пажарнай тужурцы, стаяў Якаўлеў на дзяжурным пасту ля дзвярэй ліцейнага цэха. Да дробязяй знаёмы малюнак заводскага двара не спыняў раўнадушнага погляда пажарніка. Ля брамы вітрына брака. Побач партрэты лепшых ударнікаў завода. Насупроць чырвоная і чорная дошкі,—усё як заўсёды, але штосці новае адчуваў Якаўлеў у сабе. Гэта новае нарадзілася ў ім ў тую самую хвіліну, калі старшыня камісіі па чыстцы спакойна прачытаў: „Якаўлева... за палітычную непісьменнасць перавесці з кандыдатаў партыі ў спачуваючыя“. Тады, сядзеўшы побач беспартыйны рабочы спачуваюча ўздыхнуў і сказаў Якаўлеву. „Так, брат, здорава цябе пакаралі“. А Якаўлеў не знайшоў што адказаць.

Крыху пазней, зачытваючы вывады аб рабоце ўсёй партыйнай арганізацыі завода, старшыня правертройкі, павысіўшы голас, падкрэсліў:

— На заводзе дрэнна работалі партыйныя школы, Адсутнічала работа з кандыдатамі партыі.

Калі гучна прачытаныя радкі дакрануліся вуха Якаўлева, глыбокая маршчынка на ілбу разгладзілася, высока прыпадняліся бровы.

— Чуў, не толькі я вінаваты ў сваёй палітычнай адсталасці і не пакаранне рашэнне камісіі па чыстцы,—са спазненнем, але спакойна, адказаў ён беспартыйнаму суседу.

Сход скончыўся. Ідучы дамоў, спатыкаючыся аб выступы тратуара, наскокваючы ў цемразі на прахожага, Якаўлеў унушаў спадарожніку:

— Зразумей ты, што камісія па чыстцы заўважыла ў самы раз тое, аб чым шмат разоў думаў я сам. Я малапісьменны газету чытаю па складах, не заўсёды зразумею тое, аб чым чытаю, мяне запісалі ў аднагадовую партыйную школу. Ну што я там зразумею? Хадзіў, хадзіў і кінуў. На чыстцы не ведаў статута партыі, не ведаў нават што такое партыя. А хто ў гэтым вінаваты? З сябе віны не здымаю. Вядома частка віны на мне, трэба было вучыцца, але большая частка віны на партыйным калектыве. Прынялі ў кандыдаты партыі і забыліся пра мяне. За ўвесь час не далі ніякай нагрузкі. Перакідвалі з аднаго цэха ў другі, не паспею ўцягнуцца ў работу, а глядзіш у другі цэх пераводзяць. Я за комуністычную партыю на франтах змагаўся. У 1918 г. у Чырвонай арміі добраахвотнікам служыў, у Манголіі быў па ліквідацыі белых банд Зігерта. І зараз работаю не дрэнна. Але трэба дапамагчы мне малапісьменнасць ліквідаваць. Буду прасіць няхай прымацуюць да мяне каго-небудзь з комуністаў палі-

тычна пісьменных; чаго сам не зразумею, прымацаваны растлумачыць, усё-ж лягчэй.

Якаўлеў доўга пераканальна даказваў спадарожніку сваю правату, як быццам бы той спра чаўся і супярэчыў яму.

З таго памятнага вечара прайшоў месяц. Стоячы на дзяжурстве ля дзвярэй ліцейнага цэха, Якаўлеў соты раз абдумваў свае словы, сказаныя тады па дарозе, ідучы са схода па чыстцы. Месяц прайшоў, а новага мала. Ніхто не цікавіцца кандыдатамі партыі і спачуваючымі. Ні разу не сабралі іх, не пагутарылі з імі. Аб'ектыўныя прычыны перашкаджаюць Якаўлеву наведваць вучобу і ніхто не падумаў стварыць умовы, пры якіх ён мог-бы вучыцца. Нагрузкі не далі. Як быць? соты раз задае сабе пытанне Якаўлеў.

Уследза Якаўлевым мімвольна ўзнікаюць пытанні; як-жа партыйны калектыў рэалізуе вывады камісіі па чыстцы? Ці памятае ён аб тым, што кандыдаты і спачуваючыя патрабуюць да сябе ўважлівых і чулых адносін? Што партколектыў зрабіў для Якаўлева, пераведзенага за палітычную непісьменнасць з кандыдатаў у спачуваючыя? Колькі такіх як Якаўлеў чакаюць адказа ад калектыва з-да „Пралетарый".

Ас.

# Буду лепшым ударнікам вучобы

Павольна, з цяжкасцю падбіраючы словы, Брыц расказваў пра тое, аб чым многа думаў у апошні месяц.

— Партыя, дыктатура пралетарыята —ўсё для мяне. Яшчэ хлапчуком, калі ўпершыню пачаў свядома ўспрымаць акружаючае, зразумеў як бязлітасна эксплаатуюць бацьку, як ад нэндзы церпіць матка за нас, дзяцей.

Дзіцянём прышлося ісці дапамагаць бацьку зарабляць грошы на пражытак. Яшчэ ў дзяцінстве даведаўся аб цяжкасцях паднявольнай працы, эксплаатацыі і прыгнечанні. Класавая свядомасць рана прачнулася ва мне. У 1919 г. пайшоў добраахвотнікам у Чырвоную армію. Да 1923 г. змагаўся на польскім фронце супроць белых банд і інтэрвентаў. Быў ранены, ачуняў і зноў варочаўся на фронт. Пасля дэмабілізацыі служыў у міліцыі. У 1926 г. паступіў на завод „Пролетарый". Работаю ў арматурным цэху слесарам, маю ўдарную картку, лічуся лепшым ударнікам завода, таму што высока стаўлю інтарэсы завода, барацьбу за прамфінплан і якасць выпускаемай прадукцыі. У 1931 г. уступіў у рады партыі. У 1933 г. прыблізна месяц назад камісіяй па чыстцы за палітычную непісьменнасць быў пераведзены з членаў партыі ў кандыдаты.

Брыц спыніўся і змоўк.

— Што-ж задумаўся таварыш, ці не згодны з вывадамі камісіі па чыстцы?

— Не, што вы, згодзен, вядома, згодзен. Я і там на сходзе сказаў, што правільныя вывады правертройкі. Камуніст павінен не толькі пачуццём адгадваць правільнасць шляху, комуніст павінен быць тэарэтычна падкаваны, павінен умець добра разбірацца ва ўсіх палітычных пытаннях. Я ўсёй душою адданы партыі, справе рабочага класа, а з-за сваёй палітычнай непісьменнасці іншы раз мімвольна граеш на руку класаваму ворагу. Я-ж не змог адказаць, у чым розніца паміж правым і левым ухіламі, у чым шкоднасць гэтых ухілаў. Ну паслалі-б мяне ў вёску, задаў-бы мне калгаснік якое - небудзь пытанне, ну, што я яму адказаў-бы, як мог-бы я на сходзе даказаць нашу правату. Эх!.. Брыц безнадзейна махнуў рукою. — Я не мог адказаць на чыстцы, хто такі Молатаў. Дрэнны я комуніст, разумею, ды позна.

— Чаму-ж позна, ці не думаеш вучыцца?

— О, не, я не толькі думаю, я вучуся, я ўжо работаю над сабою. У час вайсковага комунізма, калі вораг адкрыта ішоў на нас, я хутка навучыўся валодаць вінтоўкай; цяпер, калі вораг маскіруецца, калі ён „ціхай сапай "стараецца перашкодзіць будаўніцтву бяскласавага грамадства, валодаць вінтоўкай недастаткова, цяпер трэба ўзброіцца тэорыяй Маркса—Леніна—Сталіна. Чыстка многаму навучыла мяне. Чыстка—гэта лепшая школа. Я рэгулярна наведваў усё сходы, уважліва сачыў за адказамі правяраемых на палітычныя пытанні і многаму навучыўся. Сход па чыстцы—гэта пачатак маёй вучобы. Зараз вучуся ў кандыдацкай школе, наведваю рэгулярна заняткі, работаю над матар'ялам дома. Закончылі прапрацоўку тэмы: „Два светы, дзве сістэмы". Задайце мне любое пытанне па гэтай тэме, і я без затрымкі адкажу вам.

Брыц ажывіўся і горача загаварыў:

— Работаў два гады зборшчыкам членскіх узносаў, зараз работаю парторгам. Грамадская работа шмат дае, расту на ёй. Мая брыгада ўдарная, работае добра, а цяпер я паставіў перад сабой задачу выкарыстаць кожную свабодную ад работы хвіліну для гутарак і чыткі газет. Я лепшы ўдарнік па вытворчых паказальніках. Раней гэта радавала мяне, а цяпер... Цяпер я супакоюся толькі тады, калі даб'юся звання лепшага ўдарніка вучобы. Сталін сказаў аб тым, што комуніст той, хто ўмее перамагаць труднасці. Для мяне труднасць вучоба, але я комуніст і аваладаю тэорыяй Маркса—Леніна—Сталіна.

С.

---

Мы павінны старацца падняць званне і значэнне члена партыі вышэй, вышэй і вышэй.

(Ленін, прамова на 2-м з'ездзе партыі).

# За поўны ахоп усіх комуністаў партыйнай вучобай

На заводзе «Пролетарый» работаюць тры партыйныя школы, з якіх адна аднагадовая, адна шасьцімесячная і адна кандыдацкая. Усяго ахоплена школамі членаў партыі і беспартыйных рабочых 127 чалавек. Дзякуючы добра разгорнутаму соцспаборніцтву паміж школамі і ўнутры школ паміж паасобнымі слухачамі, школы працуюць рэгулярна. Толькі некаторая частка комуністаў не зяўляюцца на заняткі, тлумачачы гэта аб'ектыўнымі прычынамі (Малец, Аронаў, Лукомскі, Цёмкін, Любітава, Брусаванік і інш.), а ёсць і такія, якія зусім не наведваюць школу (Токараў, Лавінскі, Капацілаў).

Каб высветліць прычыны ненаведваньня школ гэтымі таварышамі, па ініцыятыве шматтыражкі «Чырвоная ваграна» і культпропа парткалектыва 23 кастрычніка была склікана нарада дэзертыраў партыйнай вучобы. Кожны з іх днём каля варштата атрымаў пісульку-запрашэнне з'явіцца на нараду зараз-жа пасля работы. Большасць запрошаных таварышоў з'явілася ў парткалектыў. Кожны з іх даведаўся, у чым справа, тут-жа абдумаў свой праступак і зразумеў тую вялікую памылку, якую зрабіў ён сваім нежаданнем вучыцца марксізму-ленінізму.

На нарадзе выступіла т. Любітава—кандыдат партыі, загадчыца бібліятэкі. Яна матывавала ненаведванне школы тым, што няма на каго пакінуць сваіх маленькіх дзяцей. Але-ж Любітава не даўлічыла таго, што школа работае ў дзве змены і на ранішняй змене яна, безумоўна, можа прысутнічаць на занятках.

Тав. Малец зрабіў прагул адзін раз, калі атрымоўваў у ЗРК бульбу, а другі раз хадзіў на вагзал сустракаць сваю жонку. На нарадзе ён сказаў, што гэтыя прычыны нельга прызнаць здавальняючымі. Малец як парторг брыгады наадварот павінен паказваць прыклад астатнім, а не плясціся ў хвасце. Таксама ўсвядоміў сваю памылку кандыдат партыі Цёмкін—лепшы ўдарнік. На чыстцы ён не адказаў ні на адно палітычнае запытанне. Гэта абавязвала яго сур'ёзна вучыцца ў партыйнай школе, а ён перайшоў на курсы чарцёжнікаў. Мы не супроць тэхнічнага навучання, але-ж, як кандыдат партыі, Цёмкін павінен вывучаць марксісцка-ленінскую тэорыю.

Комуніст Брусаванік, які меў некалькі прагулаў, на нарадзе гэта тлумачыў тым, што ён ня мае падручнікаў і яму надта цяжка займацца. Таксама і тав. Лукомскі—кандыдат партыі, рабочы слесар, адзначыў на нарадзе, што свае прагулы ён зрабіў па неўважлівых прычынах і абяцаў наведваць школу рэгулярна. У такім-жа духу выступалі і астатнія дэзертыры вучобы. Усе яны абавязаліся надалей прагулаў не рабіць, акуратна наведваць школу і змыць з сябе гэту ганебную пляму. Усе яны катэгарычна патрабавалі выдачы ім падручнікаў з тым, каб можна было дома падрыхтавацца да заняткаў.

Знайшліся на заводзе і такія комуністы, якія не палі чылі патрэбным з'явіцца на нараду. Партыйцы Жыхараў, Капылоў, Токараў, Лавінскі, Капацілаў, якія ні разу не наведалі школу, і тут паказалі сваё нежаданне вучыцца марксізму-ленінізму. Парткалетыў павінен гэтымі таварышамі заняцца з тым, каб прымусіць іх вучыцца.

Такія нарады дэзертыраў партыйнай вучобы трэба праводзіць перыядычна і практыкаваць на другіх заводах і фабрыках, бо нарада дэзэртыраў партвучобы на заводзе „Пролетарый" дала добрыя вынікі. 24 кастрычніка на заняткі з'явіліся Лукомскі, Любітава, Малец і іншыя комуністы, якія раней наведвалі заняткі неакуратна.

Трэба адзначыць, што не ўсе нізавыя партзвенні — партгрупы дапамагаюць рабоце партшкол. Парторг брыгады па зборцы помпаў т. Малец, сам зрабіў 2 пропускі, ён гэтым дэмабілізуе астатніх комуністаў групы. Зусім іншая справа ў партгрупе Эстрына (кавальскі цэх). Парторг Эстрын сам рэгулярна з'яўляецца на заняткі, сочыць за наведваннем школы усімі комуністамі групы, і, дзякуючы таму, члены і кандыдаты партыі з кавальскага цэха з'яўляюцца лепшымі слухачамі партшкол.

Па прыкладзе Эстрына павінны раўняцца і іншыя парторгі. Парторгі, сакратары цэхавых ячэек адказваюць за яўку на заняткі комуністаў і беспартыйных рабочых свайго цэха.

Г. Плоткін.

---

**Узброім кожнага комуніста марксісцка-ленінскай тэорыяй. За ідэйную стойкасць членаў большэвіцкай партыі**

## Таварышы

### парторгі, партагітатары і брыгадзіры!

Наш часопіс, рэарганізаваны з бюлетэня, які быў выпушчан па выніках праведзенай нарады парторгаў і сакратароў цэх. парт. ячэек, ставіць перад сабой задачы:

Распаўсюджвання дадатнага вопыта партыйна-масавай работы на прадпрыемствах. Дапамогі падвышэнню палітычнага ўзроўня нізавога партыйнага актыва цэха, брыгады.

Змагацца за лепшую падрыхтоўку да партдня, лепшую пастаноўку працы з кандыдатамі, планавасці ва ўсёй нашай рабоце.

Ставіць сваёй галоўнай задачай арганізаваць праверку рэарганізацыі рашэнняў вышэйстаячых партарганізацый, асабліва гарадскога камітэта партыі.

Часопіс будзе выходзіць штомесячна. Падавайце матэрыялы аб вашай рабоце і свае заўвагі па зместу часопіса.

АРГАДДЗЕЛ ГК КП(б)Б.

Гарліт № 1370. Зак. № 4843—1000 экз. „Палесдрук", Гомель.